## ЗЬМЕСТ




**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**ЗША**

Mr. M. Karanieuski, 14 Easton Ave., New Brunswick, New Jersey
Mr. U. Duniec, 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio
Mr. M. Kuczura, 1217 N. Wolcott Ave., Chicago 22, Illinois
Miss S. Pleskacz, 17574 Brush Ave. Detroit 3, Mich.

**Канада**

Mr. U. Baranovich, 111 Lindsey Ave., Toronto, Ontario
Mr. B. Lisconak, 472 Bayron Court, Oshawa, Ontario.

**Ангельшчына**

Mr. A. Laszuk, 97 Moore Park Road, London S. W. 6

**Бэльгія**

Mr. U. Bakunovic, 19 Place Hoover, Louvain

**Аўстралія**

Mr. W. Akavity, 80 Tapleys Hill Rd., Royal Park, S. A.
Mr. M. Nikan, 14 Steel St., Spotswood, Victoria
Mr. A. Vasilenia, 39 Edwin St., Croydon, New South Wales.

Адрыс рэдакцыі: „Беларуская Моладзь", 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.

Гадавая падпіска у ЗША й Канадзе — $2. Грашовыя пераказы выстаўляць на: "BYELORUSSIAN YOUTH"

Byelorussian Youth Association of America, 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.






# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ


**Квартальны часапіс беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы**
**Выдае: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы**
**Рэдагуе: Калегія**

Год выд. I — КАСТРЫЧНІК 1959 г. — № 4


Памерці, каб жыла Бацькаўшчына! — з гэткімі словамі Случчакі пайшлі ў змаганьне.

Гэта было ў часы адраджэньня беларускае дзяржавы, і маладая Беларуская Народная Рэспубліка чакала гэткае ахвярнасьці.

А цяпер — калі завіруха параськідала вас па розных кутках сьвету — змаганьне, каб жыла Бацькаўшчына мусіць стацца лучнікам.

Жыве БНР!

Парыж, 6. VIII. 1950

Лявон Рыдлеўскі,
слуцкі паўстанец.

(Із скаўцкага альбому й альбому Дванаццаткі).

## ЯК ТАТКА МОЙ КАЛІСЬЦІ

*Мой татка ваяваў калісь за Родны Край.*
*Была тады вайна . . . галега . . . ліхалецьце . . .*
*Не дадалі яны нікому йшгэ дабра . . .*
*Пайшоў і Беларус выгнаньнікам па сьвеце.*

*І, нарадзіўшыся ужо на гужыне,*
*я не ганяў із пужкай статку ў поле,*
*ня багыў, як матуля зь песьняй жыта жне,*
*і хлеба з хатняе дзяжы ня еў ніколі.*

*Але я Беларус! Хай скажуць, што ня так,*
*хай бацькаўшгыны дзьве дала мне доля тая:*
*адна —*
*дзе я расту травінкаю, няўзнак,*
*другая —*
*Беларусь далёкая, сьвятая.*

*Хацеў-бы я, каб скрозь быў лад і супакой,*
*каб шгэзьлі звод, вайна, як восенскае лісьце.*
*Але за Родны Край з узьнятай галавой*
*пайду я ваяваць,*
*як татка мой калісьці.*

*Натальля Арсеньнева*

## ON THE ANNIVERSARY OF THE BATTLE OF SLUCAK*)

What is there, then, of truth in that fire-sharp moment
When a world of picture-book peasants and gay girdles,
A folk-song land, hidden among the marshes,
Erupts in a bursting flower of pain and glory?
Afterwards, let historians wrangle motives,
Talk tactics, plot disastrous strategies —
(Divided troops, or over-weak supply-lines).
Afterwards, when new frontiers barb the land,
And the tint new maps new colours, we forget.
Afterwards, only a history date of disaster,
A star half-lost in the victor's flaring sunrise.
But then, when the salt of blood makes wine of the air,
A leap of the heart, and all that is fire in the soul
Sings, shrill as a sword-flash in the frosty wind,
And all life is etched on the sky in a moment of blood;
Then, under the hem of death, life is a jewel,
A drop of diamond, where all perception distils.
We cannot live so, already the rags of newsprint
Drift down the dusty wind, the blood-stained leaves
Wither beneath the snow, the frantic heart
Ceases its bruised tatoo of aching grief
And we breathe stunned peace, and the daily drone of living...
We live... they live... the defeated sleep at peace...
And the sedge-grass tangles across the lonely marshes...
Until, shrill across the years, the echoes wake
In the bitter cave behind the dark of the wind;
And a spark of light, white from the graves of Sluck,
Steels willow-fronds in the mist to glinting spears,
Finds heroes' blood caught in the sunset river.

*Vera Rich.*

*39 years ago, on November 27, 1920, the Byelorussian patriots of Slucak region began their unequal struggle against the Russian Communist invaders.

Over 10,000 farmers and workers responded to the call to stand firmly for Byelorussia's independence and took up arms to defend their homes on a front 100 km. wide.

For five weeks the Slucak brigade resisted the overwhelming forces of the Red Army, which was weakened by widespread desertions to the Byelorussian side. Only the deployment of so-called „international" Communist troops finaly forced the Slucak patriots to retreat to the Polish border. On December 28, 1929, they were disarmed and interned by Poles: The patriotism, determination, and courage of the Slucak insurgents continue to serve as an example for every young Byelorussian today.



**Моладзь у гісторыі Беларусі**

# АДАМ ГУРЫНОВІЧ

Беларускі паэта-рэвалюцыянер Адам Гурыновіч (1869-1894) пражыў няпоўных 25 год. Ён належыць да тых сьветлых постацяў нашага адраджэньня XIX ст., што будуць заўсёды прыкладам беларускай моладзі ў ейным нясупынным змаганьні з панявольнікамі нашага краю.

Нарадзіўся А. Гурыновіч у хвальбарку Кавалі, Вялейскага павету. Дармо, што паходзіў з заможнае сям'і, ён нязвычайна войстра адчуваў сацыяльны й нацыянальны зьдзек, які чынілі беларускаму народу царскія прыгнятальнікі. Беларуская мова была забароненая, навучальныя й культурныя ўстановы пазачыняныя, гістарычныя й духовыя вартасьці краю парабаваныя або патаптаныя ў балота. Але ў паняволеным народзе жыла памяць бунтарнага Кастуся Каліноўскага. Ідэя вызваленьня Беларусі, хоць скрываўленая мураўёўскім перасьледам, будзіла жывы водгук у душах беларускае моладзі. Водгук гэты, яшчэ вучачыся ў рэальнай гімназіі ў Вільні, пачуў у сабе й Гурыновіч. Ён пачаў уважліва прыглядацца да жыцьця падняволЬнага краю й ня мог не дагледзець у нетрах свайго прыгнобленага люду вялікіх багацьцяў народнае душы. Будучы паэта пачаў цікавіцца жыцьцём народу, запісваць ягоныя песьні, легенды, казкі. А пасьля, кіруючыся на народныя скарбы, пачаў і сам пісаць. Скончыўшы Віленскую рэальнаю гімназію, Адам Гурыновіч паехаў на навуку ў Пецярбург, у тэхналягічны інстытут.

У тагачаснай сталіцы царскае імпэрыі, дзе вучылася шмат беларускае моладзі — гарачых патрыётаў нацыянальнага адраджэньня Беларусі — Гурыновіч адразу-ж уліваецца ў рэвалюцыйнае студэнцкае жыцьцё. Ён стаецца сябрам заснаванае ў 1889 г. студэнцкае арганізацыі пад назовам „Кружок моладзі польска-літоўска-беларускай і маларускай". Прыяжджаючы зь Пецярбургу на Беларусь, малады рэвалюцыянер шырака прапагуе ідэю вызваленьня роднага краю спад чужацкага расейскага панаваньня. Ён дакладна ведаў гісторыю паўстаньня Каліноўскага; належаў да гуртка, дзе сьвята ўшаноўваўся гэраізм Грынявецкага, што загінуў у 1881 г. пры забойсьцьве расейскага цара Аляксандра III-га; быў вельмі блізка знаёмы з абуджальнай паэзіяй Францішка Багушэвіча. Увесь гэты час ён займаўся таксама зьбіраньнем вуснага народнага творства й самастойнай літаратурнай працай. **(Гл. далей на б. 4)**

**ВЕРЫ РЫЧ** 22 гады. Жыве ў Лёндане. Вучыцца на матэматычным факультэце Лёнданскага ўнівэрсытэту й вельмі шмат займаецца паэзіяй — вывучае й творыць сама. Вера ведае колькі эўрапейскіх старых і сучасных моваў, у тым ліку й беларускую. Яна працуе цяпер над перакладам у ангельскую мову Коласавае паэмы „Сымон Музыка" і Багдановічавых вершаў. Вера вялікая прыяцелька Беларусаў. Будучы Ангелькай з паходжаньня, яна заве сябе „Беларускай праз адаптацыю".

Часапіс БМ зь вялікай прыемнасьцяй зьмяшчае верш Веры Рыч, прысьвячаны Слуцкаму Паўстаньню.

У 1893 г. у Кракаве, сваім собскім коштам, Адам Гурыновіч выдаў кніжку пад загалоўкам „Зборнік беларускіх твораў". У тым-жа самым 1893 г. царская паліцыя арыштавала паэту. Здарылася гэта ў Вільні ў доме бацькоў, калі ў ягоных паперах у часе пературусу паліцыя знайшла напісаны ім беларускі верш, у якім паэта заклікаў беларускі народ прачнуцца й ськівуць зь сябе ярмо расейскага царызму. Арыштаваны Гурыновіч апыніўся йзноў у Пецербургу, гэтым разам у Петрапаўлаўскай крэпасьці. У турме ён праседзеў блізу год ды моцна падупаў на здароўі. Хворага, яго выпусьцілі зь няволі, але аддалі пад нагляд паліцыі ў двор ягонага бацькі ў Крыстанопалі, Сьвянцянскага павету. Вярнуўшыся дамоў із падарваным здароўем, Гурыновіч захварэў на чорную воспу, што прывёз з сабой з паўночнае сталіцы, і ў студзені 1894 г. памёр. Паліцыя пільна сачыла паэту, і вестцы пра ягоную сьмерць не дала веры датуль, пакуль маці нябожчыкава не паказала жандарам труп свайго замучанага сына.

Адам Гурыновіч загінуў ад царскага паліцыйнага рэжыму. Ягоным духовым забойствам заняліся бальшавіцкія спадкаемцы царскае паліцыі. Хоць у падсавецкай Беларусі пасьля даўгагадовага маўчаньня імя Гурыновічава й прыгадваецца, бальшыня ягонага творства ўсё яшчэ пад забаронай, а ягоны праўдзівы беларускі патрыятызм хвальшуецца на маскоўскі капыл.

## ГІСТОРЫЯ СЬЦЯГУ СЛУЦКІХ ПАЎСТАНЦАЎ

Ад сп. гэн. Францішка Кушаля мы даведаліся наступнае:

У 1920 г. у выніку ваенных падзеяў на Беларусі, Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі змушаныя былі пакінуць Менск. Беларускім палітычным цэнтрам сталася Прага Чэская. Аднак, значная частка сяброў Рады БНР апынілася ў Летуве, Лацьвіі й Польшчы. Штаб Беларускае Вайсковае Камісіі знаходзіўся тады ў польскім месьце Лодзі.

Калі ў лістападзе 1920 г. на Случчыне выбухнула антыбальшавіцкае паўстаньне, група радных БНР у Польшчы, сярод якіх былі гэткія выдатныя дзеячы, як С. Рак-Міхайлоўскі, А. Смоліч і Т. Грыб, дзеля навязаньня лучнасьці дэлегавала на Случчыну маладога капітана Якубецкага. Якубецкі быў родам спад Горадна.

Падаючыся на Случчыну, яму давялося праяжджаць праз родную Горадзеншчыну. Тут вестка пра паўстаньне на Случчыне зрабіла вялізарнае ўражаньне на жыхарства. Шмат хто імкнуўся далучыцца да паўстанцаў, але перашкаджалі гэтаму ў значнай меры разьбіты вайною транспарт і нястача сувязі. Жанчыны Горадзеншчыны, каб выказаць сваю салідарнасьць з паўстанцамі, перадалі капітану Якубецкаму бел-чырвона-белы сьцяг з вышытымі на ім словамі *„Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына"*. Капітан Якубецкі, заехаўшы на Случчыну, перадаў гэты сьцяг у штаб паўстанцаў. Пасьля павароту із свайго заданьня Якубецкі быў узнагароджаны рангай маёра.



# VIII ГАДАВЫ ЗЬЕЗД ЗБМА

Зьезд адбыўся 5-6 верасьня 1959 г. у Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзы. Нарады адчыніў кіраўнік ЗБМА, сябра М. Казьлякоўскі. Сяброўка Аліна Лосік, кіраўнічка мясцовага аддзелу ЗБМА, прывітала ўсіх дэлегатаў і гасьцей, а сяброўка Аня Стома прачытала кароткі ўспамін аб сьв. пам. Ул. Кабушку, які заўсёды шчыра памагаў моладзі ў ейнай дзейнасьці і быў запраўды апякуном мясцовага аддзелу ЗБМА.

У прэзыдыюм зьезду былі абраныя: Ул. Дунец — за старшыню, Васіль Мельяновіч і Маня Лук'янчык — за сакратароў.

VIII зьезд ЗБМА прывіталі: сп. А. Стагановіч — ад прэзыдыюму Рады БНР, сп. К. Мярляк — ад Галоўнай Управы БАЗА, сп. П. Кажура — ад Царкоўнай Рады прыходу Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы імя Жыровіцкай Божай Маці, і сп. С. Гутырчык — ад аддзелу БАЗА Саўт-Рывэр і Нью-Брансўік. Былі прачытаныя пісьмовыя прывітаньні ад Яго Высокапрэасьвяшчэнства Уладыкі Васіля, ад Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі й іншыя.

Пасьля прачытаньня пратаколу папярэдняга зьезду, былі выслуханыя справаздачы зь дзейнасьці Галоўнага Кіраўніцтва, паасобных аддзелаў, рэдкалегіі часапісу „Беларуская Моладзь", а таксама справаздача рэвізійнай камісіі.

У дыскусіі, якая вывязалася пасьля, між іншага, была ўзятая ўвага на тое, каб у 1960 г. належна адзначыць 10-ыя ўгодкі існуваньня ЗБМА ды выдаць з гэтае нагоды юбілейную брашуру.

Нарады спыніліся каля гадз. 5-ай. Пару гадзінаў па тым ведамая беларуская аркестра „Палесьсе" (аддзел Кліўленд) пачала вечарыну, у часе якое адбыўся таксама конкурс беларускае народнае вопраткі, наладжаны Гал. Кіраўніцтвам ЗБМА.



**Сяброўка Іра Каляда з Кліўленду заняла першае месца на конкурсе беларускае народнае вопраткі ў часе 8-га зьезду ЗБМА**

Першае месца ў конкурсе ўзялі: Іра Каляда й Васіль Мельяновіч. Як узнагароду, яны атрымалі па кніжцы „Спадчына" Янкі Купалы.

Другі дзень зьезду пачаўся багаслужбай, якую адслужыў а. Сьцяпан Войтэнка. Пасьля багаслужбы была адслужаная заўпакойная літыя за маладых беларускіх патрыётаў, што загінулі ў змаганьні за незалежную Бацькаўшчыну. Айцец Сьцяпан у сваёй казані да моладзі падчыркнуў падобнасьць нашага беларускага патрыятызму да хрысьціянскага патрыятызму, апісанага ў Сьв. Пісьме.

Пасьля супольнага абеду, зладжанага жаноцкай сэкцыяй мясцовага ад-

дзелу БАЗА, пачаліся ўзноў нарады зьезду.

Было парушанае пытаньне часапісу „Беларуская Моладзь". Зьезд прызнаў патрэбу й карыснасьць выдаваньня часапісу й прыняў пастанову, паводля якое ЗБМА забавязваецца больш дзейна памагаць рэдкалегіі ў выдаваньні й распаўсюджваньні часапісу

У выніку перавыбараў у новае Галоўнае Кіраўніцтва ўвайшлі: В. Станкевіч — кіраўнік, В. Паланевіч — заступнік кіраўніка, А. Акановіч — сакратар, Ніна Каваль — скарбнік і Аўген Лысюк — сябра. У рэвізійную камісію былі абраныя: Васіль Мельяновіч, Юрка Станкевіч і Поля Грудзько.

Рэзалюцыйнай камісіі ў складзе Ю. Станкевіча, В. Русака й М. Казьлякоўскага было даручана выслаць прывітаньні прэзыдэнту ЗША Айзэнгаўэру, прэзыдэнту Рады БНР М. Абрамчыку, Архіепіскапу Васілю — сакратару Сьвяшч. Сабору Япіскапаў БАПЦ на Чужыне, губэрнатару штату Нью-Джэрзы й мэру гораду Саўт Рывэр.

Зьезд скончыўся адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

У нядзелю ўвечары моладзь з усіх аддзелаў ЗБМА выступала ў мастацкай частцы: папулярныя ньюёркаўцы выканалі пад кіраўніцтвам сяброўкі Алы Орса колькі беларускіх народных танцаў, кліўлендзкія сьпявачкі Іра Каляда і Маня Лук'янчык зачаравалі ўсіх мастацкім выкананьнем беларускіх народных песьняў, Міхась Стрэчань з Кліўленду абараніў гонар хлапцоў у галіне сьпеву, а аддзел ЗБМА Саўт-Рывэр вельмі ўдала адыграў п'есу „Трэба ў мамы папытацца" й скэч „Двое глухіх". Трэба зацеміць, што дагэтуль Беларуская моладзь у Амэрыцы яшчэ ніколі не выступала з п'есамі — спадзяёмся, што гэтая першая ўдачная спроба паддасьць ахвоты аматарам драматычнага мастацтва.

### ПАДЗЯКА

Уступаючае галоўнае кіраўніцтва ЗБМА выказвае падзяку сябру Міхасю Каранеўскаму й жанчынам Саўт-Рывэру й Нью-Брансўіку за добрае зрыхтаваньне 8-га зьезду ЗБМА.

---

*Калі ёсьць розум, то й шгасьце знойдзецца.*
*Ня круган — не рамень, ня вуган — не галавек.*
*Хто знае, той і мае.*

**УВАГА!**

**ГРАШОВАЯ ДАПАМОГА СТУДЭНТАМ**

Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд пры ЦБАА дае фінансовую дапамогу. З заявамі зварачацца да старшыні аддзелу ССФ на Паўночную Амэрыку д-ра А. Вярбіцкага на адрыс: Dr. E. WIERBICKI, P. O. Box 301, Waterloo, Iowa. Да заявы трэба далучыць пасьветку аб пасьпяховасьці. Стыпэндыі даюцца поўныя або часткавыя — у форме пазыкі, што мусіць быць зьверненая па сканчэньні навукі з пачаткам заработнае працы.



## ІНТЭРВІЮ

*Рэдакцыя „Беларускае Моладзі" зьвярнулася да новага галоўнага кіраўніка ЗБМА Вягаслава Станкевіга з пытаньнямі што да будугых плянаў галоўнага кіраўніцтва. Ніжэй зьмяшгаем пытаньні й адказы на іх.*

**Пытаньне: Што вы плянуеце рабіць для пабольшаньня ліку сяброў Згуртаваньня?**

**Адказ:** Перш-наперш, праз асабістыя кантакты, мы будзем запрашаць моладзь на зборкі аддзелаў, каб праз гэта заахвоціць запісацца ў Згуртаваньне. Зразумела, трэба старацца, каб зборкі ў ваддзелах былі цікавыя.

Таксама, як дагэтуль, будзе праводзіцца акцыя залажэньня новых аддзелаў, як у Задзіночаных Штатах, гэтак і ў Канадзе. Там, дзе аддзелы ўжо ёсьць, рост сяброў шмат будзе залежаць ад актыўнасьці самых аддзелаў, якім галоўнае кіраўніцтва будзе старацца памагчы ўсімі спосабамі.

**П.: Якое становішча ЗБМА ў дачыненьні да беларускіх школаў?**

**А.:** ЗБМА высака цэніць вартасьць асьветы й заўсёды старалася пашырыць ахвоту да навукі сярод сяброў Згуртаваньня. Асаблівы-ж націск ЗБМА кладзе на наведваньне беларускае школы. Кажны сябра арганізацыі павінен быць пісьменным Беларусам! — вось наш дэвіз. Галоўнае кіраўніцтва будзе рабіць усё магчымае, каб як найбольш моладзі наведвала беларускія школы.

**П.: Як вы думаеце правесьці спартовы год?**

**А.:** Галоўнай падзеяй спартовага году мае быць чародная спартовая сустрэча беларускае моладзі Амэрыкі. У часе сёлетняе спартовае сустрэчы ў Саўт-Рывэры кліўлендзкі спартовы кіраўнік сб. Хведар Пагуда гаварыў пра Кліўленд, як наступнае месца спартовага спатканьня. Галоўнае кіраўніцтва ЗБМА поўнасьцяй падтрымвае ідэю рэгулярных спартовых сустрэчаў, што значна ажыўляюць дзейнасьць Згуртаваньня. Мы згаджаемся таксама што да ініцыятывы сб. Пагуды. Дык цяпер слова за Кліўлендам!

**П.: Як будзе праводзіцца рэпрэзэнтацыя навонкі?**

**А.:** Галоўна праз актыўны ўдзел у імпрэзах, ладжаных гэткімі міжнацыянальнымі арганізацыямі, як Рада Народных Мастацтваў, зь якой мы даўжэйшы час супрацоўнічаем. ЗБМА будзе й надалей падтрымваць і пашыраць сувязі з украінскай, польскай, летувіскай ды іншымі арганізацыямі моладзі. Плянуем вымену выданьнямі з гэтымі арганізацыямі.

Мы пастанавілі таксама выдаць невялікі дапаможнік для існуючых і новых танцавальных гурткоў. У ім будуць пералічаныя галоўныя выданьні у якіх апісваюцца беларускія народныя танцы ды будуць пададзеныя заўвагі й дапаўненьні. Апрача гэтага, плянуем паказ беларускіх народных танцаў на фільме.

**П.: Якое дачыненьне ЗБМА да Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі й Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Штаце Ілінойс?**

**А.:** Нам трэба цікавіцца працаю іншых беларускіх арганізацыяў моладзі ды абавязкава мець сяброўскія дачыненьні зь імі, а ў патрэбе супрацоўніцтва — разам працаваць. Былі прыклады гэткага супрацоўніцтва сёлета на парадзе ляяльнасьці ў Нью-Ёрку, дзе ЗБМА й СБ-АМ бралі разам

удзел, і на нядаўнай спартовай сустрэчы. ЗБМА і надалей будзе замацоўваць гэткае супрацоўніцтва.

**П.: Якое будзе супрацоўніцтва ЗБМА з часапісам „Беларуская Моладзь"?**

**А.:** ЗБМА — выдавец часапісу, і гэта ўжо накладае пэўныя абавязкі. Восьмым зьездам ЗБМА яны былі сфармуляваныя гэтак: дапамагаць распаўсюджваньню часапісу, даваць весткі з жыцьця моладзі й узяць на сябе вялікую частку фінансаваньня Рэдкалегіі-ж пакідаецца свабода ў рэдагаваньні, але ўскладаецца таксама адказнасьць выдаваць цікавы часапіс.

У канцы хачу зазначыць, што ЗБМА — ня вельмі цэнтралізаваная арганізація. Галоўнае кіраўніцтва ў бальшыні выпадкаў выконвае каардынацыйную работу між аддзеламі. Дзеля гэтага вялікія магчымасьці ініцыятывы й канкрэтнай работы пакідаюцца самым аддзелам, удачы й заганы якіх адбіваюцца на цэлым Згуртаваньні.

**НАВІЧОК**

Пасьля пабыту Хрушчова ў Амэрыцы, Мэк Дудл пастанавіў запісацца ў камуністычную партыю. Актывісты тлумачыць яму марксыстаўскую тэорыю:

— Камунізм, братка, гэта вось што: ты маеш два міліёны? У цябе бяруць адзін, каб раздаць таварышом.

— О, гэта добра!

— Ты маеш два дамы Ад цябе бяруць адзін для таварышоў.

— Надзвычайна! Мне, бач, гэтая камунізма падабаецца!

— Ты маеш два крэслы? У цябе забіраюць адно для таварышоў.

Раптам навічок ускоквае:

— А не! Я далей ня йду!

— Га? Чаму?!

—Таму, што два крэслы то й у мяне ёсьць!

— ✤ —

**БЛАТ**

У Менску. Цыпручонак, дзякуючы знаёмству з жонкай сакратара райкому, дастаў пропуск без чаргі ўва ўсе крамы сталіцы. Толькі ён разагнаўся быў увайсьці ў пякарню, як міліцыянер заступіў дарогу і далёка паказаў рукой:

— Таварыш, калі ласка, — у канец радоўкі.

— Выбачайце, у мяне пропуск!

— Дык і добра! Гэтая чарга й складаецца якраз з тых, што маюць гэткія цыдулкі.

## СТАРЭЙШЫЯ МАЛОДШЫМ

*У беларускім нацыянальна-вызвольным руху моладзь займала й займае выдатнае месца. Гэта й натуральна, бо моладзь заўсёды найбольш ахвярная й энтузіястыгная ў сваёй працы й змаганьні. Дык маё найшчырэйшае пажаданьне: каб гэтая самаахвярнасьць і энтузіязм ніколі не астыгалі, але ўсюды й заўсёды былі вядучымі дзейнікамі ў жыцьці й працы нашае моладзі.*

Станіслаў Станкевіч

*Вы — моладзь, вы — сіла, таму сьмела разьбівайце жыцьцёвыя хвалі, а дасягнеце мэты.*

Алесь Вінньіцкі



## СПАРТОВАЯ СУСТРЭЧА

4-5 ліпеня сёлета ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзы) адбылася першая спартовая сустрэча беларускае моладзі Амэрыкі. Рыхтавацца да гэтае малое „алімпіяды" пачалі яшчэ ўвесну зь ініцыятывы кліўлендзкага спартоўца Ф. Пагуды. Рыхтаваньне старанна праводзілася асобным камітэтам, у які ўвайшлі сябры ад Згуртаваньня Беларускае Моладзі Амэрыкі й Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Да сустрэчы былі распаўсюджаныя два інфармацыйныя бюлетэні, каб пашырыць сярод моладзі й старшэйшага грамадзтва зацікаўленьне да спартовых змаганьняў.

Сустрэчу афіцыйна адчыніў мэр мястэчка Саўт-Рывэру Уолтэр Шак, Беларус з паходжаньня. Пасьля ягоных прывітальных словаў урачыста прагучэлі амэрыканскі й беларускі нацыянальныя гімны, а над стадыёнам узьняліся амэрыканскі й беларускі сьцягі.

Змаганьні пачаліся ў сыботу нараніцы ў залі саўтрывэрскага Рыкрыэйшэн Сэнтэр, дзе быў разыграны валейбольны турнір. Саўтрывэрская каманда „Нёман", адна зь лепшых на ўсходзе Амэрыкі, лёгка справілася зь ньюёркаўцамі (15:4 і 15:4), але зь вялікай натугай здолела перамагчы кліўлендзкую „Пагоню" (15:13 і 15:13). У валейболе кліўлендцы здабылі другое месца, перамагаючы „Беларусь" (Нью-Ёрк) 15:7 і 15:7.

Папаўдні адбыліся футбольныя гульні й змаганьні ў лёгкай атлетыцы.

Маладыя футбалісты „Нёману" прагралі абедзьве гульні з больш дазнанымі камандамі гасьцёў — 1:2 з „Пагоняй" і 0:4 зь „Беларусяй".

Пераможцам у скачку ўдаўжкі выйшаў Юрка Навумчык (Саўт-Рывэр) з вынікам 18 футаў 1 цаля (інч) (= 5.52 м.). Наступныя месцы занялі: Генадзь Мяжэвіч (С.-Р.) — 17 фт. 8 ц., Мікола Шчорс (С.-Р.) — 17 фт. 2 ц., Аўген Несьцяровіч (Н.-Ё.) — 16 фт. 10 ц., Юрка Станкевіч (Н.-Ё.) — 16 фт. 9 ц., Расьціслаў Войтэнка (Фэр-Гэйвэн, Н.-Дж.) — 16 фт. 2 ц.

У фінале бегу на 100 м. першае месца заняў Міхась Даманаў (С.-Р.), з часам 12.2 сэк. Другім быў Г. Мяжэвіч — 12.3 сэк, трэйцім — В. Станкевіч (Н.-Ё.) — 12.4 сэк. У разьбегу на 100 м. Міхась Даманаў справіўся за 11.4 сэк.

Сыбота закончылася сяброўскай вечарынай, што прайшла ў вельмі прыемнай й вясёлай атмасфэры. У часе вечарыны сяброўка Ганна Зыбайла зь Нью-Ёрку была абраная за „Каралеву беларускага спорту на 1959 год".



**Спадарычна Ганна Зыбайла — „Міс Беларускага спорту на 1959 год", абраная на першай спартовай сустрэчы беларускае моладзі Амэрыкі.**

У нядзелю папаўдні былі далей футбол і лёгкая атлетыка. Выявілася, што ўдалая сыботная вечарына ня зусім добра адбілася на арганізаванасьці нядзельных змаганьняў. Пачаліся яны зь вялікім спазьненьнем што ладна абнізіла дасягненьні спартоўцаў і зацікаўленьне публікі.

У фінале футбольнага турніру кліўлендцы апраўдалі сваё добрае ймя й перамаглі „Беларусь" зь лікам 5:2, здабываючы гэтым пераходны кубак Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА).

У кіданьні куляй перамог Альфрэд Крукоўскі (С.-Р.) з вынікам 39 фт. 8 ц. (=12.09 м. ). Другое месца заняў Аркадзь Каваль (Н.-Ё.) — 38 фт. 11 ц., трэйцяе — У. Палонскі (Кл.) — 37 фт. 11 ц.

Скачкі ўвышкі выклікалі вялікае зацікаўленьне публікі, ня гэтулькі, можа, добрымі дасягненьнямі, як сваім драматычным прабегам. Сябры М. Даманаў і А. Каваль змагаліся тут за кажную цалю, не зважаючы на парную гарачыню. Пад канец ім удалося брацъ сваю вышыню ажно за другім або трэйцім разам. Міхась Даманаў, урэшце, пабіў свайго супорніка скокам 5 фт. (=1.52 м.). Аркадзь Каваль скочыў 4 фт. 11 ц., а У. Палонскі (які пры адпаведным практыкаваньні можа вырабіцца на вельмі добрага скачкоўца) заняў трэйцяе месца з вынікам 4 фт. 10 ц.

Бег на 1000 м. таксама прайшоў вельмі драматычна. М. Гнаценка (С.-Р.) вырваўся адразу наперад, але ньюёркавец А. Каваль ня пусьціў яго далёка ад сябе, заставаўся ўвесь час на ягоных пятах і колькі разоў чарадаваўся зь ім у пяродаваньні. Толькі на апошніх мэтрах А. Кавалю ўдалося перагнаць моцнага саўтрывэрца й выграць за 3:23.8 часіны. Далейшыя месцы занялі: Ю. Станкевіч (Н.-Ё.), Р. Войтэнка (Фэр-Гэйвэн), М. Казьлякоўскі (Н.-Ё.), М. Палюховіч (С.-Р.).

У нядзелю ўвечары ўдзельнікі змаганьняў і прыхільнікі спорту зыйшліся на ўрачысты банкет, у часе якога старшыня БАЗА сп. К. Мярляк даручыў пераходны кубак БАЗА футбольнай каманьдзе „Пагоня" з Кліўленду, а сп. К. Вайцяхоўскі перадаў ад імя Беларуска - Амэрыканскага Дапамагавага Камітэту пераходны кубак валейбольнай каманьдзе „Нёман" із Саўт Рывэру. Апрача гэтага, былі разданыя ўзнагароды за першыя й другія месцы ды пачэсныя граматы за трэйція.

У супорніцтве, асабліва ў лёгкай атлетыцы й валейболе, было вельмі шмат спартовага духу й шчырага высілку. Некаторыя хлапцы, як прыкладам, Аркадзь Каваль, Міхась Даманаў, Юрка Навумчык ды іншыя паказалі, што яны запраўды ўсебаковыя й таленавітыя спартоўцы.

Таксама трэба адзначыць спартовы дух удзельнікаў спасярод старэйшае моладзі й зусім маладых (прыкладам, Расьціслаў Войтэнка), што бралі ўдзел у лёгкай атлетыцы, ня маючы вялікіх шансаў на перамогу. Хай сабе возьмуць зь іх прыклад усе тыя, што паленаваліся выйсьці на стадыён ды засталіся гледачамі. Запраўдныя спартоўцы бяруць удзел у змаганьнях, каб магчы памерацца сіламі із сваймі сябрамі— ня толькі тады, калі маюць шанс заняць першае месца. Трэба спадзявацца, што гэткае разуменьне спорту больш пашырыцца сярод нашае моладзі.

Хто ўважна сачыў збоку прабег спартовае сустрэчы ці браў у ёй удзел, напэўна бачыў адну вялікую загану ў арганізатараў — імкненьне правесьці за кароткі тэрмін як найбольш розных змаганьняў, маючы пры гэтым параўнальна малы лік удзельнікаў. Вынік гэтага — пераморанасьць і не найлепшыя дасягненьні. Некаторым спартоўцам даводзілася выступаць па 4-5 разоў на дзень. А гэткія недацяжкі ў арганізацыі сустрэчы, як спазьненьні, нястача судзьдзяў і да г. п., яшчэ больш ускладняюць праблему.

Дзеля таго, на нашую думку, ладзіць штагоду падобныя вялікія сустрэчы ня зусім практычна, асабліва калі мець на ўвеце, што шмат хто прыяжджае ня толькі, каб узяць удзел у змаганьнях ці паглядзець на іх, але й пагасьцяваць у знаёмых.

Ці ня лепш было-б арганізаваць меншыя сустрэчы ў паасобных галінах спорту й далучыць іх да зьездаў нашых грамадзкіх арганізацыяў? Гэта ўзбагаціла-б праграму такіх зьездаў, а таксама ажывіла-б спорт сярод беларускае моладзі. Заміж таго, каб спартоўцы насьпех рыхтаваліся выступаць у колькіх відах спорту ды толькі раз на год, яны павінны былі-б займацца спортам цэлы год і пры кажнай сустрэчы маглі-б аддаць усю ўвагу аднаму віду спорту. Пры гэткім наладжаньні справы можна будзе знайсьці час і для зарганізаваньня спорту сярод нашых дзяўчатаў.

Урэшце, некаторыя малыя спартовыя імпрэзы (прыкл. валейбольны турнір) могуць быць галоўнай атракцыяй самі па сабе, а пасьля іх можна наладзіць вечарыну ці пікнік. Таксама не канечна, каб у іх бралі ўдзел беларускія спартоўцы з цэлае Амэрыкі. Толькі ў Нью-Джэрзы й Нью-Ёрку зацікаўленае моладзі ёсьць гэтулькі, каб можна было весьці запраўды дзейнае спартовае жыцьцё. Трэба толькі належна ўзяцца за гэта.

**Ю. Станкевіч**

## ДОВАД

Камандант гарнізону сурова забараніў гуляць у покера. Але пільны саржант злавіў-ткі чатырох. І вось вінаватыя, выцягнуўшыся „на зважай", стаяць перад камандантам, які пытаецца ў першага:

— Ці ты прызнаешся, што гуляў у карты?

— Спадару каманданьце, гэта памылка! Я ня гуляў у карты. Саржант блага бачыў.

— А ты? — пытаецца начальнік у наступнога злачынца.

— Не! — катэгарычна пярэчыць гэты.

— А ты?

— Таксама не!

— А ты? — пытаецца камандант у чацьвертага.

Гэты, паклаўшы руку на сэрца, праказаў:

— Ды падумайце самі, спадару каманданьце: калі гэтыя трох ня гулялі, дык ня мог-жа я гуляць сам адзін.



## СПАРТОЎЦЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ У АМЭРЫЦЫ

У лёгкаатлетычным змаганьні ЗША-СССР, што адбылося 18-19 ліпеня сёлета ў Філядэльфіі, Беларусы Васіль Рудзянкоў і Міхась Крыванос занялі 1-е й 3-е месцы ў кіданьні малатом. Іхныя вынікі: 66.65 м. і 62.94 м. Чэмпіён сьвету Гарольд Канолі (ЗША) заняў 2-е месца з вынікам 66.01 м. Беларус Аўген Сакалоў у бегу на 1500 м. заняў чацьвертае месца з вынікам 3:52.3 часіны (першае месца дасталося Амэрыканцу Бэрлсану — 3:49.4).

# ХРОНІКА

## ГАДАВЫ ЗЬЕЗД БААТ

5 верасьня 1959 г. у ваднэй з заляў жаноцкага ўнівэрсытэту Доўглэс Колэдж у Нью-Брансўіку, Н. Дж., адбыўся 7-ы гадавы зьезд Беларуска-Амэрыканскага Акадэміцкага Таварыства. У новую ўправу Т-ва былі абраныя: інж. В. Русак — старшыня, інж. Ю. Станкевіч — заступнік, сп. А. Кароль — сакратар, сп-чна Л. Войтэнка — скарбнік, сп. А. Несьцяровіч — сябра.

Новаабраны старшыня сказаў, што ў бліжэйшым часе ўправаю Т-ва будуць праведзеныя дзьве зборкі беларускае моладзі ў Нью-Ёрку й Нью-Брансўіку з мэтай паінфармаваньня пра магчымасьці далейшага вучэньня ды меркаваньні, якімі трэба кіравацца пры выбары кірунку навукі. Управа пляпуе таксама зарганізаваць апрацаваньне й выпуск інфармацыйнага зборніка аб Беларусі ў вангельскай мове.

### Студэнцкая арганізацыя за працай

11 кастрычніка беларуская студэнцкая арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Акадэміцкае Таварыства наладзіла адмысловую інфармацыйную зборку для моладзі, што скончыла або канчае сярэднюю школу й зьбіканчае сярэднюю школуй раецца йсьці раецца йсьці на ўнівэрсытэт. На гэтай зборцы былі пададзеныя інфармацыі аб магчымасьцях вучэньня на ўнівэрсытэце, карысьці вывучаньня розных навукаў, аб магчымасьцях атрыманьня працы пасьля сканчэньня навукі й аб тым, як трэба да вучэньня рыхтавацца.

Зь інфармацыямі выступілі: сп-ня Г. Русак — аб вывучэньні моваў, мастацтва й бібліятэкарства, сп. П. Манькоўскі — аб эканоміцы, сп. Ю. Станкевіч — аб інжынерыі сп-чна Д. Войтенка — аб хэміі, біялёгіі й мэдыцыне. Вялікае зацікаўленьне да гэтай зборкі выказалі бацькі моладзі.

25 кастрычніка падобная зборка адбылася ў Нью-Ёрку. Апрача вышэй пералічаных сяброў, зь інфармацыямі выступілі: Р. Гарошка — аб фізыцы, Я. Запруднік — аб гісторыі, А. Кудасаў — аб вячорных школах.

### НЬЮ-ЁРК

Гадавы сход аддзелу ЗБМА адбыўся 10 кастрычніка ў памешканьні ІУКА ў Брукліне. На сходзе было абранае новае кіраўніцтва аддзелу ў складзе: Аўген Лысюк — кіраўнік, Аркадзь Каваль — заступнік кіраўніка, Слава Цэлеш — сакратарка, Оля Мельяновіч — скарбнік і Вячка Станкевіч — сябра. Шырака дыскутаваліся прапановы што да дзейнасьці аддзелу ў будучыні.

Настаўнікі беларускае школы ў Нью-Ёрку сп. сп. М. Тулейка й Ю. Станкевіч заклікалі наведваць курс беларусаведы для моладзі, зарганізаваны кіраўніцтвам школы. Матар'ял курсу абыймае беларускую мову, літаратуру, гісторыю, геаграфію й закон Божы.

### На фэстывалі Гэнры Гадсана.

Танцавальны гурток ньюёркаўскага аддзелу ЗБМА ў нядзелю 23 жніўня ўзяў удзел разам з балцкімі групамі ў фэстывалі Гэнры Гадсана, якім адзначаліся 350-я ўгодкі места Нью-Ёрку. Танцоры: А. Орса, О. Мельяновіч, П. Груцько, Н. Каваль, Э. Александровіч, Р. Станкевіч, А. Каваль, А. і М. Александровічы, А. Лысюк К. Верабей, В. Станкевіч. Да танцаў граў незаменны Лявон Рудзінскі. Ён-жа акампаніяваў сп-чне К. Ярашэвіч да дзвюх песьняў. І танцы, і песьні, і музыка былі нагэтулькі шчырыя, што Беларусь на фэстывалі забрала найбольш воплескаў ад тысячнае аўдыторыі, а ейныя прадстаўнікі зусім заслужана атрымалі ўзнагароду — Arthur Murray Trophy.

Арганізацыйнымі справамі займаўся сябра А. Несьцяровіч, сталы прадстаўнік ад Беларусаў у ньюёркаўскай міжнацыянальнай Радзе Народных Мастацтваў.





Здымка Язэпа Пазьняка.

**Сяброўка Клава Ярашэвіч выконвае беларускую песьню на міжнацыянальным фэстывалі Гэнры Гадсана ў Нью-Ёрку, дзе беларуская група здабыла першае месца.**

### КАЛЯНДАР І ПЛЯНЫ

**20 сьнежня 1959 г.** ньюёркаўскі аддзел ЗБМА ладзіць супольна з танцавальнай групай Уэльшцаў (Welsh) калядны вечар для ўсіх нацыянальных групаў, што належаць да Рады Народных Мастацтваў. Беларусы й Уэльшцы пакажуць свае калядныя звычаі ды выступяць з каляднымі песьнямі. Вечар адбудзецца ў St. Philip Church, Clifton, N. J.

### КЛІЎЛЕНД

26 верасьня беларуская моладзь Кліўленду выступала зь песьнямі й народнымі танцамі на тэлебачаньні. Праграма была добра дарыхтаваная й выкананая. Пачалося з „Крыжачка", пасьля чаго кіраўнік праграмы пазнаёміў глядачоў зь кіраўніком беларускае моладзі Ул. Дунцом,які абвесьціў наступны нумар: народную песьню „А дзе я радзілася — ня была" ў выкананьні сябровак Іры Каляды й Мані Лук'янчык. Акампаніявалі: Ул. Літвінка, М. Стрэчынь і Оля Дубаневіч.

Танцавальная група школьнае моладзі надзвычайна ўдала выканала народны танец „Мікіта". Салістка Іра Каляда прасьпявала песьню „Каб была я перапёлкай", словы Янкі Купалы, музыка Міколы Куліковіча. Закончылі праграму шпаркай „Лявоніхай".

Кіраўнік праграмы зрабіў даволі вялікі даклад пра Беларусь. Ён трапна абрысаваў мінуўшчыну й цяперашнія імкненьні беларускага народу.

Варта зазначыць, што гэты выступ быў больш удалы за ўсе папярэднія. Трэба спадзявацца, што ЗБМ у Кліўленьдзе будзе часьцей гэткім спосабам інфармаваць амэрыканскае грамадзтва пра Беларусь.

---

**Увага!** Кліўлендзкі аддзел ЗБМА праводзіць збор грошай на закуп кніжок для гарадзкое бібліятэкі й свае. Просіцца ўсе выдавецтвы прысылаць па два экзэмпляры сваіх выданьняў. Калі выданьні ня могуць быць прысланыя як ахвяра, аддзел заплаціць.

---

*Загадка: Ідзе певень па кладцы — сьледам кладка гіне.*

# СМАЛЕНШЧЫНА — ЧАСТКА БЕЛАРУСІ

(Працяг з № 3)

**Геаграфічны агляд Смаленшчыны**

Смаленская вобласць РСФСР, якая абыймае блізу ўсю апісваную тут прастору Смаленшчыны, абыймае 49.000 кв. км. з прыблізна трох міліённым жыхарствам.

Смаленшчына — гэта найбольш узвышаная частка Беларусі. Вышыня над узроўнем мора тут у сярэднім 210 мэтраў, а даходзіць і да 320 м. Гэтае ўзвышша складаецца з колькіх грабянёў узгоркаў — Сычаўская-Вяземскае грады, Рослаўскае грады й Бельска-Духаўшчынскае грады. Між рэчкамі Дняпром і Вуграю прасьцягаецца г. зв. Ельнінска-Дарагабускае плято.

Паўночны захад Смаленшчыны, ля вышняе Дзьвіны мае больш балацяны выгляд, з частымі вазёрамі марэннага, ледавіковага паходжаньня.

Із Смаленскага ўзвышша выцякае шмат беларускіх рэчак: Дняпро, які перасякае Смаленшчыну на даўжыні 503 км., Сож, Асьцёр, Іпуць, Дзясна, Вугра, Мяжа (прытока Дзьвіны. Назоў яе, відаць, паходзіць ад старадаўнае мяжы Крывічоў, а пасьля Вялікага Княства Літоўскага). Гэтыя рэкі часта глыбака ўразаюцца ў узгоркі, творачы даліны-яры 30-50 м. углыбкі.

Смаленшчына — гэта край лясісты, асабліва ўздоўж вышняга Дняпра, дзе разьлёгся ведамы Вокаўскі Лес, і ў вышнявінах Вугры ды Іпуці. Лясы, якія складаюцца ў 60% зь лісьцявых пародаў, займаюць адну чацьвертую ўзьверху смаленскае вобласьці. У лясных нетрах Рослаўшчыны, ля Іпуці ды Астра, вядуцца бабры, выдры, ласі, медзьвядзі. Толькі ў ваколіцах самога Смаленску ды ў мясцовасьцях на паўдня ад яго ўраджайная гліністая глеба дала магчымасьць больш разьвіцца земляробству, якое давяло да блізу поўнага высячэньня лясоў.

Клімат Смаленшчыны крыху больш кантынэнтальны, чымся ў цэнтральнай і заходняй Беларусі, але ўсё яшчэ куды лагаднейшы за клімат Маскоўшчыны. Сярэдняя тэмпэратура ў студні: —8.5 гр., а ў ліпені: 18.2 гр. Атмасфэрычныя гадавыя ападкі ў мілімэтрах даходзяць да 660 мм на паўночным захадзе краю й да 530 мм на ўсходзе. Сярэдняя колькасьць гадавых ападкаў у Беларусі — 650 мм. Сьнег у Смаленшчыне ўскрывае зямлю ў сярэдзіне лістапада й ляжыць 120-130 дзён, г. зн. да сакавіка.

Жыхарства вобласьці займаецца пераважна земляробствам. Толькі 18.8% жыве ў гарадох. Гушчыня жыхарства — 40 чал. на кв. км.

Сельская гаспадарка абапіраецца галоўна на лёнагадоўлі й малочных прадуктах. У 1916 г. смаленская губэрня сеяла найбольш лёну ў тагачаснай Расейскай імпэрыі. Ужо на пачатку 20-га стагодздзя паўстае ў Смаленшчыне прамысловасьць, пачынаючы ад вялікага тэкстыльнага заводу ў Ярцаве. Пасьля рэвалюцыі разьвілася тут розных відаў лёгкая прамысловасьць — паперная, скураная, лёнаабробная, тарпяная шкляная, піва-броварная. Найбольшыя прамысловыя цэнтры — гэта Смаленск (156,000 жыхароў), Ярцава, Вязьма, Рослаў, Сафанова, Рудня й Ельня.

Смаленшчына таксама багатая мінэральнымі выкапнямі: фасфарыты здабываюцца ў Рослаўшчыне й на вышнім Сожы, будаўляныя матар'ялы (жвір, пясок) у Вязьме, гліна на цэглу ў Гусіне й Гнёздаве ля Смаленску і ў Парэцкім (цяпер Дзямідаўскім) павеце. Пласты бурага вугальля цягнуцца праз усю ўсходнюю Смаленшчыну; прамыслова здабываецца яно ля Сафанава й ля мястэчка Усходаў на вышняй Вугры.

**Юстыч.**

**Доктар Францішак Скарына** (нарадзіўся каля 1490 г.) з Полацку — гені беларускага народу. Ён быў першым сярод усходніх Славянаў, што атрымаў ступень доктара ў Заходняй Эўропе. Францішак Скарына слаўны ня толькі, як першадрукар і філёзаф. Ён адзначаўся таксама глыбокімі ведамі ў мэдыцыне, матэматыцы, гісторыі, праве, малярсьцьве, філялёгіі, а таксама батаніцы. Як навуковец - батанік, Ф. Скарына быў запрошаны чэскім каралём Фэрдынандам І-ым у Прагу, дзе ўзяў актыўны ўдзел у арганізаваньні Праскага Каралеўскага батанічнага саду.



*Ў старыну Беларус непадданы*
*Гаспадарыў, быў сам над сабою,*
*І далёка у сьвеце быў знаны*
*За літоўскай і ляскай зямлёю.*

**Алесь Гарун**

---

*Чытаў я цімала старых папераў па дзьвесьце, па трыста гадоў таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай гысьцюсенькай, якбы вот цяпер пісаліся.*

**Францішак Багушэвіч**

**Рэдкалегія часапісу „Беларуская Моладзь" выказвае глыбокае спачуваньне сям'і праф. Антона Адамовіча з прычыны сьмерці ягонае дарагое маці.**

— ❖ —

**З прычыны сьмерці сьв. пам. д-ра Аляксандра Орсы, заслужанага беларускага пэдагога й шчырага прыяцеля моладзі, рэдкалегія часапісу „Беларуская Моладзь" выказвае сям'і памерлага глыбокае спачуваньне.**

**Да нашых Падпісчыкаў і Чытачоў**

Дасюлешні кальпартаж нашага часапісу, нажаль, ня быў зусім на ўзроўні й дзеля гэтага сям-там маглі здарыцца недагляды. Просім ня браць за злое. Маладое выдавецтва робіць усё магчымае, каб наладзіць спраўную адміністрацыйную службу. Зварачайцеся да нас з заўвагамі й пажаданьнямі.

**Выдавецтва БМ**

## ЗАГАДКІ

*Еду, еду — ні дарогі, ні сьледу; кіём паганяю, сам на сьмерць пагладаю.*

*Ішоў, ішоў — дзьве дарогі знайшоў і ў вабедзьве пайшоў.*

*Кажнаму трэба, а ніхто сам сабе ня робіць.*

## *КАНЦАВІЦА*

Для бальшыні нашых сяброў восень абазначае пачатак школьнага году, пачатак новага падарожжа ў няведамае, дзе кажны высілак думкі адкрывае панадныя далягляды. Беларускай моладзі Амэрыкі новы школьны год суліць больш, чымся шмат каму, бо яна мае шырэйшыя магчымасьці пазнаньня. Гэтыя магчымасьці далі ёй бацькі й дае беларускае грамадзтва.

Апрача наведваньня амэрыканскае школы, нашая моладзь мае вялікі прывілей — і абавязак — наведваць беларускую школу, дзе яна павінна ўзбагаціць атрыманы ад бацькоў дар роднае мовы ды веды пра паняволеную бацькаўшчыну. Бязумоўна, хадзіць у дзьве школы куды цяжэй, чымся ў вадну. Гэта вымагае больш працы, больш здольнасьцяў і больш здаровага розуму. Кажны, хто здабудзецца на гэта, і атрыманыя ад бацькоў зерні беларусаведы дбайна вырасьціць на глебе роднае школы, той ужо на пачатку свайго самастойнага жыцьця здыме дзесяцікротны ўраджай. Цімала прыкладаў гэтага можна бачыць цяпер сярод старэйшых сяброў.

Важнасьць веданьня культуры й мовы іншых народаў пацьвярджаюць таксама школьныя праграмы амэрыканскіх навучальных установаў. Шмат хто з нашае моладзі, што наведваюць амэрыканскую школу, вучацца гішпанскае ці францускае мовы. Але-ж, калі вучыцца чужога — вельмі пахвальна, дык забывацца сваё — тым больш сорам і ганьба.

Вялікая праўда гучэла ў закліку бацькі беларускае навейшае літаратуры Францішка Багушэвіча, калі ў канцы XIX стагодзьдзя ён пакінуў сваім нашчадкам гэткія словы: „Яно добра, а навет і трэба знаць суседзкую мову, але наперш трэба знаць сваю . . . Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!"

Сяньня, калі Амэрыка стала на чале вялікага змаганьня за міжнародную справядлівасьць супраць расейскага каляніялізму, з запасам беларусаведы можна быць куды карысьнейшым і Амэрыцы, і Беларусі, і самому сабе.

Беларускія настаўнікі самаахвярна прынясуць у родную школу скарбы й будуць іх шчодра раздаваць. Скарбы гэтыя бясцэнныя: іх ня купіш, іх ня выменяеш. Іх трэба ўзяць коштам сумленнае працы й рэгулярнага наведваньня свае школы. Калі гэтыя скарбы здабудзеш — іх ня згубіш. А ў жыцьці яны могуць вельмі й вельмі прыдацца. Па іх — у родную школу — няхай ідзе кажны, хто ўмее думаць і плянаваць наперад.



## EDITORIAL

**To most of us fall brings the beginning of another school year, the beginning of a trip to the land of the unknown where our own thoughts and criosity discover new and fascinating horizons.**

**To the Byelorussian-American youth the new school year offers even more then to others — it gives them the opportunity to learn more. Our own parents and the whole Byelorussian-American community give us this chance.**

**Besides attending American school, it is our great privilege and duty to attend Byelorussian school, where we can improve our knowledge of Byelorussian, the common gift from our parents, and our knowledge of Byelorussia, the land of our origin. Of course, it is harder to attend two schools. It demands more work, more responsibility and more common sense. Anybody who is willing to cultivate his own knowledge of Byelorussia carefully will be able to reap a rich harvest at the very beginning of his independent life. We can see many examples of this now among our older friends.**

**The importance of knowing the cultures and languages of other peoples is recognized in American schools. This year many of us will be studying French, German or Spanish in school. However, if it's important for us to learn about foreign peoples, it's all the more important for us not to forget our own heritage.**

**At the end of the 19th century, the father of modern Byelorussian literature, Francišak Bahuševič, expressed a great truth, when he appealed to the young with these words: "It is good, and even necessary to know your neighbor's language, but first you must know your own. Do not abandon our Byelorussian language, or you will die!"**

**Today, when America is in the forefront of the great struggle for international justice against Russian colonialism, your knowledge of the Byelorussian heritage can be very useful to the United States, to Byelorussia, and to yourself.**

**Byelorussian teachers selflessly bring to the school the treasures of this knowledge, and are willing to share them with you. These treasures are priceless; they cannot be bought or traded. They can be obtained only by conscientious work in the Byelorussian school. They cannot be lost once you acquire them. Their value in your future life will certainly be much greater than you may believe now. Anybody who thinks for himself and plans ahead can find these treasures simply by attending a Byelorussian school*).**

---

***Byelorussian schools exist in most Byelorussian-American communities (New York City, Cleveland, South River, N. J., New Brunswick, N. J. etc.) and offer courses in Byelorussian language, literature, history, geography, and the Greek-Orthodox or Roman Catholic religion. Instruction is usually given on Saturday morning.**

Цана: 50 ц.




# BYELORUSSIA

Ethnographical boundaries ▲ ———

Boundaries of the BSSR ▲ -·-·-·-·-

(Byelorussian Soviet Socialist Republic)

---

Printed by R. Krupka & M. Pyrsky, 114 St. Mark's Place, N. Y. C.